# ГОМАН БАРЫСАЎШЧЫНЫ

№1(2), 1997 г.
ліпень - жнівень

кошт свабодны

грамадска - палітычная, асветніцкая газета,
выдаецца са жніўня 1996 г.

Рэдакцыя газеты "Гоман Барысаўшчыны" прыносіць прабачэнне сваім чытачам за вялікі перапынак паміж выхадамі першага і другога нумара. За гэты час нам прыйшлося сутыкнуцца з супярэчнасцю існуючых законаў і падзаконных актаў. Гэта абышлося рэдакцыі ў сямізначную суму грошаў і месяцы хаджэння па розных інстанцыях. Хацелася б выказаць вялікую падзяку дырэктару Папяровай фабрыкі Капшаю А.Я., генеральнаму дырэктару ААТ "Паліміз" Савіну А.Р. і дырэктару ТАА "Полымя" Занько В.Л. за аказаную нашай газеце дапамогу. Наступны нумар газеты выйдзе ў верасні. Далей да канца года "Гоман Барысаўшчыны" будзе выходзіць раз на месяц.

## ДРЭВЫ ЯК ЛЮДЗІ



Фота В. Сліранскага

## Жыццё таварыстваў

## СТВАРАЛЬНАЯ ПРАЦА ТОЛЬКІ ПАЧЫНАЕЦЦА

Наша дзяржава па сутнасці сваёй шматнацыянальная. Канешне, беларусы з'яўляюцца карэнным народам. Але акрамя іх, Беларусь стала радзімай шматлікім прадстаўнікам іншых народаў : габрэяў, расейцаў, палякаў, татар. Гэты спіс можна працягваць і далей. Узгаданыя супольнiцтвы разам з беларусамі перажываюць цяжкі і складаны працэс этнічнага і рэлігійна - культурнага адраджэння.

Не абмінуў агульны ўздым адраджэння і польскую абшчыну на Беларусі. У пачатку 90 - х гадоў ствараецца Саюз палякаў Беларусі (СПБ) з выканаўчымі органамі ў Гародні. І гэта невыпадкова. На Гарадзеншчыне жыве звыш 80% этнічных палякаў ад іх агульнай колькасці ў нашай краіне. Дэмакратычным з'яўляецца Статут СПБ. Адным з доказаў гэтага ёсць палажэнне Статуту, якое прадугледжвае магчымасць членства ў Саюзе і непалякам. Адзінае патрабаванне - падзяляць статутныя мэты.

У хуткім часе пасля стварэння агульнарэспубліканскай арганізацыі ўзнікла і суполка СПБ у Барысаве. Зараз у яе ўваходзяць некалькі дзесяткаў чалавек. Ганаровым старшынёй суполкі з'яўляецца спадар Іван Прасмыцкі, заслугі якога ў справе польскага адраджэння на Барысаўшчыне цяжка пераацаніць.

Што ж зроблена за гэты час? Пры актыўным удзеле Саюза палякаў адчынены касцёл у старой частцы горада, добра знаёмы ўсім жыхарам Барысава. У беларускай гімназіі №2 польская мова выкладаецца як абавязковы прадмет навучання. Акрамя таго, яна вывучаецца факультатыўна ў многіх школах. Такім чынам, тэрыста дзяцей барысаўцаў кожны год знаёмяцца з гэтай цудоўнай славянскай мовай, такой роднаснай нашай беларускай.

За апошнія два гады звыш ста барысаўскіх дзяцей, якія паходзяць з польскіх сем'яў ці вывучаюць мову заходнеславянскага народу, адпачылі ў Польшчы ў харцарскіх летніках амаль бясплатна. Шмат намаганняў у арганізацыі гэтага адпачынку прыклала настаўніца польскай мовы спадарыня Ірэна Сакавец.

І ўсё ж стваральная праца толькі пачынаецца. Польская нацыянальная меншасць на Беларусі хоча бачыць нашу Бацькаўшчыну незалежнай квітнеючай краінай, у якой пануюць дабрабыт, дэмакратыя і правы асобы.

*А.Абрамовіч,*
*старшыня Барысаўскага гарадскога аддзелу СПБ*

## НЯЗГАСЛАЕ СВЯТЛО

Пяць гадоў таму, у сакавіку 1992 года, было зарэгістравана Барысаўскае асветніцкае таварыства яўрэйскай гісторыі і культуры "Святло Меноры." У вытокаў гэтага таварыства стаялі А.Разанблюм, Л.Мільман, С.Спаробінец, Ю.Кімель, Я.Бялявіне, Т.Сімкін.

Усё пачалося са стварэння дзіцячай нядзельнай школы, у якой яўрэйскія дзеці атрымалі магчымасць вывучаць мову, гісторыю, культуру і традыцыі свайго народа.

Перада мной фонд N Р-726 Занальнага дзяржаўнага архіва ў г. Барысаве. У скупых радках архіўных дакументаў велізарная работа энтузіястаў адраджэння яўрэйскага культурнага жыцця ў горадзе. Гэта і масавыя культурныя мерапрыемствы: канцэрты, лекцыі, абшчынныя святы, штогадовыя абшчынныя мітынгі ля помніка ахвярам гета, і памятныя знакі, якія ўстаноўлены на месцах генацыду яўрэяў у гады вайны ў м. Зембін, в. Пітчанка, г. Барысаве, памятная дошка ў гонар праведніка К.Скавародкі, адзіны помнік у Беларусі яўрэям, ахвярам Гулага.

А вось буклеты, выданыя Аляксандрам Разэнблюмам, прысвечаныя памяці яўрэяў Барысаўшчыны.

На жаль, не знойдзеш у архіўных паперах слядоў велізарнай работы, якую праводзяць актывісты нашага таварыства па падтрыманню парадку на сродкі яўрэйскай абшчыны, а не жылкамгаса.

Немагчыма адлюстраваць на паперы ўсю работу службы міласэрнасці нашай гарадской абшчыны - матэрыяльную дапамогу маламаёмасным, патранаж інвалідаў і хворых пажылых людзей. Працягвае працаваць нядзельная школа для дзяцей, працуюць курсы па вывучэнню мовы для дарослых. Нягледзячы на тое, што людзі пакідаюць горад, а яўрэйскае насельніцтва старэе, прыемна бачыць на штогадовым Велікодным абедзе, які праводзіцца вясной, поўную залу людзей - пажылых, маладых, дзяцей.

Гэта ўсяляе надзею, што год праз пяцьдзясят у Барысаве цябе сустрэне жывая яўрэйская абшчына, якая жыве паўнацэнным культурным жыццём, а не толькі помнікі яўрэйскай прысутнасці на гэтай зямлі.

*Б.Гітлін*

## ЦІ ЁСЦЬ БУДУЧЫНЯ Ў БЕЛАРУСАЎ?

Пытанне смешнае, на першы погляд, бо сёння мы пакуль не галадаем, ды і вайны ў нас не чуваць. Тым не менш у нашай краіне адбыліся змены, якія моцна пахіснулі духоўны падмурак нацыі і прымушаюць так рэзка ставіць пытанне. У рэшце рэшт сутнасць чалавечага жыцця вымяраецца не матэрыяльным дабрабытам, а нягаснучай упэўненасцю, што "народ не памрэ, народ будзе жыць вечна". Але, каб беларусаў не нападкаў лёс яцвягаў ды прусаў, нам трэба мець і развіваць родную беларускую школу, бо ўсе ведаюць: "у чыіх руках школа, таму належыць будучыня".

Зусім нядаўна думалася, што " працэс пайшоў". Нягледзячы на недахопы ў арганізацыі гэтай справы ў горадзе, на тое, што лепшыя і прэстыжныя школы горада засталіся расейскамоўнымі, пачатак быў пакладзены: большасць школьных устаноў стварыла беларускія класы. Да гэтага працэсу далучыўся і выканкам, які падзяліў школы і надаў ім статус. І сёння гэта былі б 5-я, 6-я класы. Былі б.

Рэзкім штуршком да змены становішча паслужыў рэферэндум. І хаця юрыдычна ён не даў перавагі рускай мове, але развязаў рукі рознага роду ворагам беларушчыны і несвядомым людзям. Паўсюдна беларускія класы пазачыняліся, нацыянальная справа стала не патрэбнай. Аддзел жа адукацыі развітаўся нават з інспектарам, якая шмат зрабіла для арганізацыі беларускага навучання.

Ці толькі бацькі вінаватыя? А якую пазіцыю заняло настаўніцтва? Аказалася - самую рэакцыйную. Дайшло да таго, што самі гора-педагогі пераконвалі ў бесперспектыўнасці "беларускай" вучобы.

Але было б, відаць, несправядліва спыніцца на такой невясёлай ноце. Сёння ў горадзе працуе Беларуская гімназія №2, а школа №22 захавала ўсе свае беларускія класы. Нямала беларускіх класаў ёсць у школах №№1, 11, 12, 18, 24. Цікавы вопыт стварэння гімназічных беларускіх класаў у СШ №20. Хочацца падзякаваць кіраўнікам названых школ і іх калектывам за свядомасць і патрыятызм.

Трэба адзначыць, што ў краіне створана Таварыства Беларускай школы, якое будзе апекавацца беларускім школьніцтвам. Яно носіць імя Б.Тарашкевіча і ўжо зарэгістравана ў Мінюсце. Такое таварыства, думаю, узнікне і ў нашым горадзе. Сябры ТБШ маюць намер выдаць "шэрую кнігу", дзе будуць сабраны факты дыскрымінацыі беларускай мовы, знішчэння беларускамоўных школ і садоў.

А вось ужо і лета 1997 года. Час адпачынку і дачаў. Але гэта і час, калі многія бацькі зробяць важнейшы выбар для сваіх дзетак. Яны выберуць ім школу. Хацелася б параіць татам і мамам, каб яны зрабілі выбар на карысць беларускіх класаў. Толькі ў такім выпадку вашы дзеткі выраступь культурнымі, духоўна багатымі, гаспадарамі нашай зямлі.

*М.Пучыла*

# БАРЫСАЎШЧЫНА Ў ІХ ЛЁСЕ

*(Пачатак у №1)*

Сёлета споўнілася 90 гадоў з дня нараджэння Сяргея Фаміна. Лёс ураджэнца Смаленшчыны 2 гады быў цесна звязаны з вёскай Ратуцічы. А прыехаў у наш край ён пасля заканчэння Магілёўскага педагагічнага тэхнікума. Малады настаўнік хутка заваяваў давер у вяскоўцаў сваёй прастатой, актыўнасцю, удзелам у грамадскім жыцці. Старэйшыя жыхары вёскі і сёння помняць, як Сяргей Фамін арганізаваў работу драматычнага гуртка, падрыхтаваў некалькі спектакляў (асобныя сцэнкі пісаў сам).

Але найбольшую папулярнасць Фамін меў як паэт. Ратуціцкі перыяд яго творчасці быў плённым: напісаны дзесяткі вершаў, паэмы "Перазовы восені", "Балота". У апошняй адлюстраваны рэальныя падзеі мясцовага жыцця: асушэнне балота.

Далейшы лёс Фаміна быў звязаны з Мінскам (вучоба ў БНУ), з Горкамі (выкладчыцкая дзейнасць у сельгасакадэміі). На жаль, паэта не абмінула трагедыя беспадстаўных абвінавачванняў у варожай дзейнасці. У 1935 годзе ён арыштаваны, пакаранне адбываў у Комі АССР, у 1941 годзе расстраляны.

Барысаўскі край даў натхненне паэту. У Ратуцічах ім створаны вершы і паэмы, якія і сёння выклікаюць вялікаю цікавасць.

Сяргей Знаёмы (Сяргей Змітравіч Клопаў) нарадзіўся на Віцебшчыне, але ўжо падлеткам ён трапляе ў Барысаў. Працуе на запалкавай фабрыцы "Чырвоная Бярэзіна", пазней рэдактуе шматтыражку "Чырвоны Бярэзінец". Вучыцца на літаратурна - крытычным аддзяленні Вышэйшага педагагічнага інстытута. Працуе выкладчыкам рускай мовы і літаратуры ў СШ №1.

Шлях у літаратуру пачаў з допісаў у газеты. У далейшым пісаў нататкі, нарысы, апавяданні, аповесці. Выдаў кнігі: "Відагоршчы", "Дом №31", "За дамбаю", "Лес гарыць", "Ганчары", "Біяграфія майго героя". Акрамя таго збіраў і даследаваў фальклор, перакладаў з рускай, украінскай і іншых моў. Як і многіх другіх актыўных дзеячаў нацыянальнага адраджэння, яго не абмінуў трагічны лёс. У 1937 годзе асуджаны на 8 гадоў зняволення ў лагеры. Аб апошніх гадах жыцця пісьменніка розныя даследчыкі даюць розныя звесткі. Адны сцвярджаюць, што Знаёмы ў 1944 годзе ўцёк з Паўночна - Усходняга лагера, і звестак аб яго далейшым лёсе няма, другія - што яго расстралялі.

У апошнія гады беларускімі кампазітарамі і паэтамі напісана многа цікавых песень. Сярод найбольш вядомых - "Беларусачка", "Жураўлі на Палессе ляцяць". Іх аўтар Алесь Ставер - нарадзіўся ў Докшыцкім раёне ў 1929 годзе ў сялянскай сям'і. У дзяцінстве перажыў трагедыю: у час блакады страціў бацькоў, быў вывезены немцамі ў Германію.

Як пісьменнік выступаў у розных жанрах: пісаў вершы, паэмы, песні, камедыі, апавяданні, аповесці, раманы. Як адзначалася вышэй, найбольш вызначыўся як паэт-песеннік.

Барысаў займаў значнае месца ў жыцці і творчасці Алеся Ставера. Па-першае, ён вучыўся ў педвучылішчы, тады ж і пачаў літаратурную творчасць, па-другое, друкавацца ўпершыню ён стаў на старонках мясцовай газеты "Бальшавіцкая трыбуна". Будучы вядомым пісьменнікам, ён многа разоў прыязджаў у наш горад па лініі Бюро прапаганды мастацкай літаратуры СП Беларусі, бываў частым госцем барысаўскага педагога і паэта Яўгена Замерфельда.

Яшчэ адным навучэнцам Барысаўскага педвучылішча быў Васіль Зуёнак. Сёння гэта адзін з таленавітых нашых паэтаў, выдаў дзесяткі кніг: зборнікі паэзіі, літаратурна-крытычных артыкулаў, нарысаў і замалёвак для дзяцей. У розныя гады В.Зуёнак працаваў галоўным рэдактарам часопісаў "Бярозка", "Маладосць", сакратаром, першым сакратаром СП Беларусі. З 1990 года - старшыня Саюза Пісьменнікаў Беларусі.

*(праціяг будзе)*

*І.Белы*

# РАБІЦЕ АДКРЫЦЦІ. ПАКУЛЬ НЕ ПОЗНА

Барысаўшчына з даўнейшых часоў славіцца сваімі лясамі. Яны дазволілі лепш захаваць тутэйшы свет жывёл і раслін, зберагчы ўсё хараство прыроды нашага краю. Акрамя таго, лясы далі магчымасць добра захаваць сляды адышоўшых эпох - рукатворныя аб'екты, якія маюць узрост па 500 - 1000 - 2000 і больш гадоў. Гэта гарадзішчы, курганы, рэшткі старажытных дарог і інш. Сучасная навука ведае вялікую колькасць такіх аб'ектаў на Барысаўшчыне. Відаць не меншая іх частка па сённяшні час застаецца па-за ўвагаю навукоўцаў. Практычна кожны чалавек, калі задасца мэтаю, можа без праблем знайсці ў нашым краі нямала такіх "неадкрытых" помнікаў чалавечай дзейнасці.

Літаральна каля Барысава можна сустрэць цікавыя гарадзішчы, курганы і іншае, звесткі аб чым не змяшчае ні адзін адпаведны спецыялізаваны даведнік. Так у двух - трох кіламетрах ад горада знаходзіцца ўнікальны комплекс, які складаецца па меншай меры з двух гарадзішчаў, селішча і рэшткаў курганнай групы. Пасля яго афіцыйнага "адкрыцця" даследчыкаў тут чакае шмат сюрпрызаў. Ёсць падставы меркаваць, што гэты комплекс можа стаць адным з найбольш цікавых і вядомых на Беларусі археалагічных помнікаў першага тысячагоддзя нашай эры.

Каб рабіць такія "адкрыцці", не абавязкова збіраць экспедыцыі, мець нейкае спецыяльнае абсталяванне. Падчас дастаткова проста ў выхадны дзень уважліва прагуляцца па лесе ў сваіх родных мясцінах. А калі вам пашанцуе, то вы знойдзеце самы вялікія з рукатворных аб'ектаў у нашым краі. Што гэта за аб'екты - пагаворым у наступны раз. Дададзім толькі тое, што яны маюць даўжыню да кіламетра і болей. Інфармацыю аб іх не спрабуйце шукаць у кнігах - яе там няма. Гэтыя аб'екты ўзгадваліся толькі ў адной з іх, якая была выдадзена больш ста год таму - ў 1892 годзе.

На вялікі жаль, вырубка лесу, якая зараз робіцца вельмі актыўна, вынішчае шмат старых лясоў. Разам з імі назаўсёды гіне экасістэма, што складалася стагоддзямі ці нават тысячагоддзямі. Новы ж лес, які вырастае з расады, адштурхоўвае ад сябе сваёй беднасцю і ненатуральнасцю.

Другі негатыўны момант вырубкі старых лясоў - знішчэнне культурнай матэрыяльнай спадчыны. Старажытныя курганы, гарадзішчы і іншыя сляды дзейнасці нашых продкаў рэдка могуць устаяць перад бульдозерамі і лесавозамі.

Знішчаецца экасістэма, гіне спадчына... Дзеля чаго гэтыя ахвяры? А колькі яшчэ падобных ахвяр мы робім нібыта для павышэння нашага дабрабыту? Няўжо наш ідэал - вобразна кажучы - сядзець ля куфэрка з маёмасцю з кавалкам каўбасы, калі навокал прамыя без жыцця каналы - рэкі, уздоўж якіх высаджаны лесанасаджэнні, што будуць адразу высечаны як толькі вырастуць. Асабіста мяне такая перспектыва не цешыць.

*М.Мацельскі*

# МЫ ІДЗЕМ СВАІМ ШЛЯХАМ

Штс не кажыце, шаноўныя барысаўцы, але жывём мы з вамі вельмі багата і заможна. Ці вы мо сумняваецеся? Магу вас пераканаць, што гэта менавіта так.

Вось глядзіце. Адной з найбольш прыбаўных і даходных галін эканомікі ў свеце лічыцца турызм. Існуе шмат краін, для якіх турызм - асноўная крыніца даходаў. Аднак пры гэтым неабходна вельмі беражлівыя, нават пяшчотныя адносіны да сваёй гістарычнай, культурнай спадчыны і прыроднага наваколля. Мы з вамі - выключэнне. Мы жывём настолькі заможна, што грошы ад турызму нам не патрэбны. Таму навошта нам вабіць да сябе іншаземцаў. Што нам нейкая там культурна - гістарычная спадчына, помнікі архітэктуры і праблема іх аховы. Бульдозер - вось лепшы сродак "аховы" помнікаў. Ёсць помнік - ёсць праблема, няма помніка - няма праблемы. Так, напрыклад, паступілі некалькі год таму з будынкам былога найвялікшага ў дарэвалюцыйным Барысаве кінатэатра "Гігант" і не толькі з ім.

Проста гераічна і з вялікім поспехам мы змагаемся з нашай спадчынай (не без дапамогі ўсё тых жа бульдозераў) на замчышчы. Барысаў проста ўнікальны горад. Тут было тры замкі і яшчэ так званыя "батарэі". Пры тым два з замкаў знаходзіліся адзін каля аднаго, а насупраць іх - "батарэі". На прыкладзе гэтых магутных збудаванняў і яшчэ былога замчышча, дзе быў у XII ст. заснаваны горад магчыма было б наглядна паказваць развіццё еўрапейскага немураванага абарончага дойлідства. Дзе яшчэ такое ёсць у свеце? Нідзе. У любым другім месцы гэта было б выкарыстана для прапаганды сваёй культуры, гістарычнай спадчыны. Ну і,вядома, турызм прынесіў бы ў "казну" такія прыбыткі, што нам і ў самым салодкім сне прысніцца не могуць. Аднак так бы зрабілі ва ўсім свеце, але не ў нас. Што нам нейкія там сярэднявечныя замкі, новыя працоўныя месцы і дадатковыя грошы, хай сабе і вялікія. На хлеб нам пакуль хапае, а на астатняе лепей бульдозер купім і засыплем замчышча. Дзе былі абарончыя рвы - зараз насыпы. Абы ціха было. Каб не толькі мы, але і нашы нашчадкі нічога пра нашу гісторыю не ведалі. А турызм? Што турызм, мы лепей самі куды паедзем і будзем сваімі грошамі ўздымаць эканоміку іншых краінаў.

Дзеля праўды трэба, вядома, адзначыць, што мы не першыя, хто прыкладае намаганні дзеля знішчэння замчышчаў. Значны крок у гэтым накірунку быў зроблены на пачатку 60-х гадоў мінулага стагоддзя, калі былі зрыты земляныя ўмацаванні двух замкаў. Але мы затое і пра "батарэі" не забываем. Так, калі будавалі новы будынак бальніцы, быў знішчаны адзін з трох бастыёнаў. А калі хто будзе абурацца, то знішчым і два астатнія.

Вельмі цікавую, проста ўзорную пазіцыю ў пытанні абароны барысаўскіх замкаў заняла некалькі год таму Дзяржаўная інспекцыя па ахове гісторыка - культурнай спадчыны пры Міністэрстве культуры. На зварот грамадзян аб тым, што знішчаецца замчышча, там адказалі проста: "Знішчаецца замчышча? Няма праблем! Значыць трэба выйсці з прапановай аб яго выключэнні са спісу археалагічных помнікаў".

Вось якія мы! Але і гэта яшчэ не ўсё. У мінулыя стагоддзі вока вандроўнікаў цешыў краявід, што адкрываўся пры надыходзе да Бярэзіны ў раёне "батарэй". На левым беразе ракі выдзяляліся на астравах два замкі, а за імі ў горадзе над комінамі будынкаў узвышаліся купалы і вежы цэркваў, сабора і касцёла. Горад знаходзіўся ў нізіне на паўвостраве, які ўтвараўся паміж поймамі Бярэзіны і Схі. Адразу за горадам былі ўзвышшы, якія былі пакрыты лесам. Усё гэта надавала Барысаву непаўторнасць і свае

*(Праціяг на 4 стар.)*

# СЫМОН ЖУКОЎСКІ

На Барысаўшчыне нарадзілася шмат людзей, якія сваёй дзейнасцю праславілі сябе не толькі ў нашым краі ці Беларусі, але і далёка за яе межамі. На вялікі жаль, далёка не ўсіх з іх мы зараз памятаем і шануем. Адным з такіх незаслужана забытых сыноў Барысаўшчыны з'яўляецца Сымон Жукоўскі.

Нарадзіўся Сымон Жукоўскі ў вельмі бедней сям'і 25 траўня 1782 года ў вёсцы Горны (цяпер не існуе), што належала да Мсціслаўскай парафіі. Пражыў ён 51 год і памёр 9 лютага 1834 года.

Жукоўскі быў філолагам, з'яўляўся заслужаным прафесарам Віленскага універсітэта, дзе выкладаў грэчаскую, яўрэйскую мовы, вёў курс біблейскай археалогіі, заснавальнікам якой на Беларусі фактычна з'яўляўся. Сымон Жукоўскі адначасова з'яўляўся дзяржаўным дарадцам, членам - карэспандэнтам каралеўскіх сяброў навук у Варшаве і Лондане.

За сваё жыццё Жукоўскі выдаў шмат кніг і артыкулаў. Гэта кнігі, якія былі выданы ў Вільні: "Пачатак грэчаскай мовы" (1808), "Пачатак мовы яўрэйскай" (1811), "Хрэстаматыя яўрэйская згодна сістэмы І.С.Ватэла" (1811) і іншыя. Ён шмат займаўся перакладамі са старажытных грэчаскай, яўрэйскай мовы і латыні. Займаўся даследаваннем і старых польскіх рукапісаў.

Жукоўскі выдаў у 1815, 1816 гадах "Дзённік Віленскі", а потым уваходзіў у кола тых, хто займаўся выданнем "Бульварных ведамасцяў". Меў намер выдаць збор звестак у выглядзе малюнкаў аб рамёслах і промыслах, што меліся на той час у Вільні. На жаль гэта задумка так і не была здзейснена. Акрамя выдадзеных прац Сымон Жукоўскі пакінуў пасля сябе і шмат не надрукаваных.

Жукоўскі - гэта толькі адзін з многіх незаслужана забытых сыноў Барысаўшчыны. Тым, хто забывае сваіх продкаў, нічога болей не застаецца, як шанаваць чужых. Да таго ж такія людзі будуць самі забытыя. Дык давайце часцей узгадваць нашых славутых землякоў.

*А.Барзэвіч*

# МЫ ІДЗЕМ СВАІМ ШЛЯХАМ

*(Заканчэнне. Пачатак на 2 стар.)*

асаблівую прыгажосць. Гэта, у прыватнасці, адзначалі ў свой час Е.Тышкевіч і П.Шпілеўскі. Аднак яны нам не аўтарытэт. Мы лес высяклі, на яго месцы дамы ды хаты панаставілі, замчышчы засыпалі, а на месцы іх рвоў пяціпавярховыя сучасныя дамы - "каробкі" паставілі, каб увесь краявід закрывалі. Так што няма чаго там касцёлам да саборам цешыцца. Назірайце за нашымі "шэдэўрамі" канструктывізму і радуйцеся нашымі дасягненнямі па знішчэнню ўсяго, што ў другім месцы шанавалася б.

Ці яшчэ. У нашых краях шмат месцаў, з якімі звязаны пэўныя гістарычныя падзеі. Напрыклад, Брылёўскае поле. Дык вось, французы задумалі там помнік паставіць. Паставілі, а да помніка - каменя шыльдачку прымацавалі. Аднак французы забыліся, з кім маюць справу. Камень мы ім паставіць далі, а шыльдачку - хай вязуць у Францыю і там замест Брылёўскага поля ставяць яе на Елісейскіх палях. А то што ж атрымаецца? Да нас пачнуць прыязджаць французы, продкаў сваіх ля помніка памінаць будуць, нашымі мясцінамі цікавіцца. Пры гэтым яны будуць прыязджаць не з пустымі кішэнямі, франкі свае расходаваць будуць. У нас жа галаўны боль з'явіцца - куды валюту дзяваць? Ці ўсім лужынам на гарадскіх вуліцах каменныя берагі зрабіць, ці метро са старога горада ў новы прарыць, ці мо ў духу часу некалькі актуальных гарадскіх рэферэндумаў правесці. У мяне нават пытанне для аднаго з іх ёсць: " Ці лічыце вы неабходным аб'яднаць вуліцу III Інтэрнацыянала (левы бок ад пешаходнага маста цераз Бярэзіну) з вуліцай імя Розы Люксембург (правы бок ад пешаходнага маста цераз Бярэзіну) у адну вуліцу - праспект Яднання імя Супольнасці з захаваннем цэласнасці і незалежнасці ўсіх сродкаў камунікацый дзвюх вуліц?" Але я адхіліўся ад тэмы... За французамі да нас у пошуках слядоў сваіх продкаў могуць пацягнуцца шведы, немцы... Вось тады мы і сапраўды не ведалі б, куды грошы дзяваць, што прыносіў бы нам турызм. Але можаце не турбавацца: такія праблемы нам не пагражаюць.

Некалькі год таму на сесіі гарсавета паўстала пытанне аб зацвярджэнні гістарычнага герба Барысава. Большасць дэпутатаў прагаласавала супраць. Я здагадваюся чаму. Трэба было зрабіць новы гарадскі герб. На ім павінен быць адлюстраваны бульдозер, што руйнуе чарговы гістарычны помнік. Бульдозер як сімвал знішчэння нашай спадчыны, культуры ўвогуле і такой галіны экономікі як турызм у прыватнасці. Я ўпэўнены, што такі герб быў бы прыняты дэпутатамі аднагалосна.

*Ян Юроўскі*



Мал. Л. Гадуна

**У газету "Барысаўскі гоман", першы нумар якой мы прачыталі ад радка да радка, дасылаем часцінку "ліцэйскага гоману", падслуханага ў сачыненнях дзевяцікласнікаў пра Барысаўшчыну.**

**Спачатку прыгожыя радкі.**

У штодзённым жыцці сучаснаму чалавеку некалі задумацца пра сваю маленькую радзіму. Але, калі ён застанецца адзін, яшчэ шмат разоў пашкадуе аб тым, што не можа напісаць паэму або верш пра свой куток, маленькі і ўтульны, куды так ірвецца душа, асабліва калі чалавек знаходзіцца ўдалечыні ад дома.

*Сіняк Алена*

Пшаніцай спелай, сінякветным лёнам,

Заводаў несціханым перазвонам

Жыве і маладзее родны край.

*Сыраежкін Сяргей*

Шмат чаго цікавага можна даведацца з гісторыі Барысаўшчыны, многаму навучыцца: пазбегнуць шматлікіх памылак, лепш зразумець жыццё і зазірнуць у будучае.

*Валодзіна Алена*

Барысаўшчына багата лясамі. У які бок не пойдзеш, абавязкова дойдзеш да прыгожага лесу і можа знойдзеш, нечакана для сябе, невялічкае лясное возера, чыстае і празрыстае, падобнае на маленькае дзіця, якое заблукала, заглядзеўшыся на чароўную прыгажосць лесу.

*Букаткіна Таня*

**Ну а зараз пасмяёмся разам:**

- У нашых Барысаўскіх лясах шмат лекавых раслін, грыбоў, ягад і смецця.

- Летам людзі збіраюць у лесе грыбы, ягады, а зімой - елкі.

- У Барысаве шмат рэк, азёр, лясоў і балот.

- У возеры Палік шмат каштоўнай рыбы.

- У нашых лясах распаўсюджаны жывёльны свет: ваўкі, мядзведзі, ласі і іншыя.

- Многа бабровых сем'яў з нашых рэк пайшлі ў Сібір на перасяленне.

- Барысаўшчына - прыгожы край, бо тут яшчэ засталася разнастайная жывёліна.

- Барысаўшчыну ўпрыгожваюць лясы, рэкі і пасяўныя плошчы.

***Матэрыял падрыхтавала Рымша Т.Р., настаўніца беларускай мовы і літаратуры палітэхнічнага ліцэя.***

## ЦІ ВЕДАЕЦЕ ВЫ, ЧАМУ ...

Вазьміце, калі ласка, падрабязную карту Беларусі. Знайдзіце на ёй буйныя рэкі, якія працякаюць з поўначы на поўдзень. Напрыклад, Бярэзіна, Дняпро, Сож, Случ і Свіслач. Адшукайце на іх старыя гарады. Вызначце, калі гэта неабходна, то з дапамогаю дадатковых крыніц інфармацыі, на якім беразе - правым ці левым - яны былі закладзены.

Калі вы зробіце гэту працу, то пераканаецеся, што ўсе гарады былі заснаваны на правым беразе. Гэта Орша, Шклоў, Магілёў, Быхаў, Рагачоў, Жлобін, Рэчыца, Крычаў, Прапойск (Слаўгарад), Чачэрск, Гомель, Беразіно, Бабруйск, Менск і Слуцк. Выключэнне з гэтага шэрагу складае толькі Барысаў, які быў закладзены на левым беразе Бярэзіны.

Такім чынам, чаму ўсе беларускія гарады, што знаходзяцца на рэках, якія цякуць з поўначы на поўдзень былі заснаваны на правых берагах рэк, а Барысаў на левым? Чакаем вашых адказаў. Пераможцы будуць узнагароджаны.

**Пятрова Л.І. працуе лабарантам у школе №1. Любоў Іванаўна - натура творчая. Акрамя асноўнай сваёй працы яна вядзе гурток, у якім дзеці з прыроднага матэрыялу майструюць розныя дзівосы. А яшчэ, гэта сціплая жанчына піша вершы. Асабліва, на наш погляд, ёй удаюцца вершы філасофскія і пейзажныя. Сёння мы знаёмім нашых чытачоў з некаторымі з іх.**

## Чаруе вока краявід

Люблю маёй Радзімы далі.
Люблю ракі вясенні плеск.
Люблю блакіт нябеснай хвалі.
Люблю цябе, асенні лес.
Бывае так, што ні хмурынкі,
У чысцюткім небе шыр, прастор.
І раптам кволаю пярынкай
Сатчэцца з нечага ўзор.
Або на сінім, сінім небе
Цудоўны бачу я пейзаж:
Высокі Горны снежны грэбень
І "Тройка коней"- экіпаж
Дзяўчынкай "Боскія будынкі"
Я называла той прывід.
Дзівосны свет з нябеснай скрынкі...
Чаруе вока краявід!

## Шчасце

Шчасце - не тое, што лёгка даецца.
Шчасце сапраўднае цяжка куецца.
Створана з веры, надзеі, кахання,
Доўга праходзіць працэс гартавання.
Час адглянуце яго асцярожна
І ўсё жыццё панаваць яго можна.

## ЦІ ВЕДАЕЦЕ ВЫ, ШТО ...

Бярэзіна з'яўляецца самай вялікай ракой на Беларусі, басейн якой цалкам знаходзіцца ў межах дзяржавы.

Бярэзіна мае даўжыню 613 км., а яе вытокі знаходзяцца ўсяго на 69 метраў вышэй за яе вусце. Для параўнання - адпаведны перапад для Гайны складае 100,7 метра.

Басейн Бярэзіны ахоплівае каля 12% тэрыторыі Беларусі, але ў ім пражывае каля чвэрці насельніцтва дзяржавы.

Старажытныя грэчаскія вучоныя прымалі Бярэзіну за вытокі Дняпра (Барысфена). Невыпадкова, што сама назва Барысфен больш сугучна назве Бярэзіна, чым Дняпро.

У басейне Бярэзіны працякае 425 рэк даўжынёй ад 1 да 327 км. Агульная і працягласць разам з Бярэзінай складае 8490 км.

У межах Барысаўскага раёна аб'ём стоку вады ў Бярэзіне павялічваецца амаль у чатыры разы. Сярэдні шматгадовы аб'ём стоку вады Бярэзіны ля Барысава складае 36,7 куб.метраў у секунду, а ў вусці - 142 куб.метраў у секунду.

Падчас найбольш моцных павадкаў максімальны расход вады ў суткі ў вусці Бярэзіны можа ў 1,5 раза перавышаць сярэднясутачны гадавы сток Дняпра ў вусці.

# КРЫЖАВАНКА

Адгадайце восем слоў, што размешчаны па гарызанталі. Пасля таго вызначыце прозвішча вядомага польскага паэта, які ў сярэдзіне XIX ст. пэўны час жыў і працаваў у Барысаве і выдаў кнігу пад назвай "Барысаў" (**1 па вертыкалі**). Запоўненую крыжаванку дасылайце на адрас 222120 г.Барысаў-1, а/с 43. Пераможца чакае ўзнагарода - бясплатная падпіска на наступныя 5 нумароў газеты "Гоман Барысаўшчыны".

**Па гарызанталі:** 2 - назва, якую маюць вёска і рэчка на Барысаўшчыне; 3 - любімае месца адпачынку барысаўчан на пачатку XX ст.; 4 - гістарычная назва вёскі Садоўшчына; 5 - вёска на Барысаўшчыне, якая раней мела статус мястэчка; 6 - сучасная назва вёскі Божы Дар; 7 - мужчынскі манастыр, які існаваў у Барысаве да сярэдзіны XVIII ст.; 8 - кляштар, які існаваў у Зембіне ў XVII - XIX стст.; 9 - назва, якую маюць дзве вёскі на Барысаўшчыне.




**Адказы на крыжаванку**, што была змешчана ў першым нумары: 2 - Дымкі; 3 - Лошніца; 4 - Андрэеўская; 5 - Пупелічы; 6 - Чырвонаармейская; 7 - Вяляцічы; 8 - Нача; 1 - Тышкевіч, напісаў і выдаў у 1847 годзе кнігу "Апісанне Барысаўскага павету".

**Гоман Барысаўшчыны**
Рэгістрацыйны нумар 595
Заснавальнікі:
І.Белы,
У.Буйко,
У.Дубаневіч,
М.Мацельскі,
М.Пучыла.
*Рэдактар М. Мацельскі*
Адрас рэдакцыі : г. Барасаў, 1-ы зав. К. Лібкнехта, 1
Наклад 5000 паасобнікаў
Падпісана ў друк 27.06.97 г.
Замова № 2792
Друкарня імя 1-га Мая
г. Барысаў
вул. Будаўнікоў, 33

Адрас для пісьмаў:
222120
Барысаў - 1,
а/с 43